д I—1912. Іюля 4-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

Падпісная цэна на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап. за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

**Як вылечыць наравістаго каня.** Наровяцца коні найчасьцей ад таго, што з імі дрэнна абходзяцца: бьюць калі незашто, наваліваюць такі воз, што конь няздужае цягнуць, гэткі конь знаровіўшыся атказываецца цягнуць другі раз і саўсім лёгкі воз.

Калі конь занаровіцца бяруць невялікі камок зямлі і сунуць каню у рот, конь стараецца выкінуць гэту зямлю і пры гэтым забываецца свае норовы і пачынае нормальна цянуць воз.

Калі-ж першы спосаб не памагае, то трэба пробаваць другі, больш пэўны способ: ззаду да калёс прывязываюць другога каня і паганяюць каб ён цягнуў воз назад. Ад гэтаго наравісты конь, неўпадабаўшы, што яго цягнуць назад, пачынае сам цягнуць як трэба. Гэтым спосабам, за колькі разоў можна адвучыць найбольш наравістаго каня.

---

**Як звясьці мух летам у хлявох.** Мухі размножыўшыся летам у хлявох страшэнна мучаць скаціну. Каб ратавацца ад іх робяць гэтак: Бяруць невялічкіе павязаные пучкі папаратніку і вешаюць у хлявох пад стропам; пад вечэр на гэтых пучках аседаюць цэлые раі мух. Калі ужо сцямнее, то двое людзей бяруць шырокі мяшок і надносяць раскрытым пад пучок, а трэцьці скорэнька перэрэзае шнурок. Толькі перэрэзаючы шнурок трэба гэта рабіць лоўка і хутка, каб ня спудзіць мух. Апрача гэтаго кожны гаспадар павінен як найбольш прывучыць ластавак, бо гэто найлепшые памочнікі у гэтым дзеле.

---

**Вада для курэй.** У нас мала рупяцца гаспадыні аб тым, каб куры мелі чыстую ваду для піцьця, кажуць, што курыца абы дзе напьецца. Тымчасам бяз съвежай, добрай вады куры ня могуць быць здаровы. Ваду для курэй трэба наліваць у гліняные начыньня і разы 2—3 у дзень перэменяць яе.

---

**Куры пачынаюць больш знасіць яец,** калі дадаваць да корму ім адагрэванаго малака. Амэрыканскіе кураводы перэканаліся, што прыбаўка да корму курам адагрэванаго малака пабольшуе носкасць курэй на $^1/_3$ на $^1/_4$.

---

**Масць для замазываньня дрэу пры абрэзцы і прышчэпцы.** Узяць адну часць смалы-жывіцы, столькі сама воску і дадаць алівы мяркуючы каб мазь не была лішне густой. Гэткая мазь дужа добра залепліваө раны на дрэвах і доўга трымае.

Годъ I—1912. Іюль 4-я кніжка.

# САХА

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІКЪ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



## Зборка жыта.

Ад таго часу, калі жыта пачало выплываць да поўнай сьпеласьці праходзіць каля двох месяцоў. Старая прыказка кажэ што жыта: „два тыдні выплывае, два тыдні красуе, два тыдні налівае, два тыдні дасьпевае“. Дажджы і сцюжа гэты час прадоўжываюць, добрая пагода укарачывае яго.

Самы крытычны момэнт у жыцьці жыта — гэта час калі яно красуе. Ад спрыяючых варункой красаваньня залежыць увесь ураджай жыта. Для добраго апыленьня, пылок аднаго каліва павінен перэлетаць на другое і усё што перэшкаджае пералёту жытняго пылку, страшэнна адбіваецца на ураджаі. Найбольш шкодзяць вялікіе дажджы у часе красаваньня; яны аббіваюць пылок і не даюць яму разлетацца. Сёлета у нашым краю, шмат дзе якраз у часе красаваньня жыта ішлі вялікіе дажджы — і гэто бадай што вельмі не карысна атабьецца на умалотнасць жыта.

Найбольш спрые ясная пагода пры лёганькім вецярку. Посьле апыленьня, жыта пачынае „наліваць“ зярно, і дзён праз 15—20 пачынаецца час малочнай сьпеласьці, каторы пасля пераходзіць у час жоўтай сьпеласьці, калі зярно ешчэ гнецца у пальцах, і посьле наступае час поўнай сьпеласьці і высыпаньня зерна.

Ніколі ня можна даваць перэстаяцца жыту на пню. Тады яно лёгка асыпаецца, дае зярно горшаго гатунку і лягчэйшае. Лепей заусё пачаць зьбіраць жыта калі зярно ламаецца у пальцах. Толькі на насеньне трэба даць акуратна дасьпець жыту. Акуратна дасьпеўшае жыта шмат лепей усходзіць і дае сільные калівы.

Зьбіраюць жыта серпамі, косамі і машынамі.

Найлепшы спосаб зборкі жыта—гэта серпамі. Шмат дзешавейшы спосаб зборкі жыта -- гэта скашываньні. Пры помачы кос найбольш зьбіраюць жыто у Літве. Машыны да зборкі жыта, так званіе „жніўяркі“ даступны толькі вялікім гаспадаркам.

Зжатае жыта стаўляюць для прасушкі у мэтлікі, бабкі і крыжы. У мэтлікі стаўляюць па 10 снапоў. Камлі у мэтліку трэба разстаўляць шырока, тады мэтлік крапчэй стаіць і снапы хучэй прасыхаюць. Шапкі каторымі прыкрываюць „мэтлік“ трэба ламаць кала пярэвесла. Праз гэткую ламаную шапку не так лёгка дабрацца дожджу да каласоў.

У даждлівы час бывае не мала клопатоў з дасушываньнем жыта. Трэба пілнаваць каб мэтлікі не перакуліваліся і былі добра прыкрыты шапкамі, бо жыта можэ зрасьці і даць нікуды нягоднае зярно: ні на хлеб, ні на пасеў.

Добра высушэнае жыта лёгка асыпаецца пры перавозцы ў гумно, і дзеля гэтаго трэба з ім асьцярожна абхадзіцца, бо пры жніве і перавозцы часам глуміцца да аднэй пятай долі ураджаю.

**Стары.**

---

# Канюшынішчэ і што з ім рабіць.

Цяпер такая пара, што блізка усе гаспадары канчаюць пратаць канюшыну і вось на носі другая пілная работа: выраблаць канюшынішчэ пад жыта.

Найлепш для поля і для жыта, калі канюшынішчэ выробім у дзьве раллі: у чорную—пагарэм неглубока, цалі на дзьве, каб толькі дзярно зрэзаць—даць дзярну перапрэць, растрасьці яго баронамі, і тады пагараць на загон. Кожная з гэтых аддзельных работ мае сваю мэту і значэньне.

Плыткае гараньнё патрэбна дзеля таго, што такім парадкам дзярно найлягчэй перапрэе, гэта раз., другое, ізноў. Земля прыцярушэная зверху разбаранаванай скібай, ня сохне наскрозь і пад сухім з верху сыпкім накрыцьцем хавае у сабе макрату так патрэбную для зерняці у нашы сухавейные восені.

Нерухомае канюшынішчэ у колькі дзён высахне „на бубен“ як нажуць, яго і плугам і сахой, хоць новым гострым нарогам ня возьмеш, а калі пагарэш, сухую, як попел ральлю, слабая карысьць для зерняці.

Аднак пры вясковай цеснаце з зямлёю прыходзіцца часта карыстаць і канюшынішча на пашу. Якую тут раду даць, каб і пашу мець і не перэсушыць зямлю? Радзяць вось як: канюшынішчэ не гараць, а толькі баранаваць пружыаовай бараной, і хоця талернай. Гэтым мы ралю прыкрываем слоем дробнай зямлі і не даем ей высахнуць у глыбіню. Толькі, каб не перэсушыць ралі баранаваць трэба хаця раз у нядзелю—то у доўж, то ў поперэк, аж да таго часу, калі будзем гараць на загон. І такім парадкам удаецца прыхаваць у глебе вільгаць і у найвялікшую суш поле пагарэцца ня цяжка і зерня у ім скора набрыняе і абыдзе.

**В. Тройца.**

*Магілёў Беларускі.*

---

# Як уберагчы гусенят, каб ня дохлі.

Часта бываець, што у гарачае лета, у чэрвені і ліпні гусеняты падыхаюць. Як толькі захварэе гусянё, то яно апускае крыльлі, ходзіць, як пьянае, не ахвотна шчыпле траву, пішчыць жаласным голасам, лапы і дзюба бялеюць, адстае ад стада і праз колькі дзён падыхае. Чым гарачэйшае лета, тым больш падыхае гусенят.

Ведама, што гусей на нач заганяюць у маленькі хлевік, дзе яны ноччу выпаражніваюцца. Але трэба ведаць, што гусь на тым мейсцы, дзе спарожнілася не сядзе, а шукае сьвежаго, чыстаго мейсца і дзеля гэтаго яны гаргаюць. Значэ сама натура іхня паказывае ім, як берагчыся ад хваробы. За колькі дзён, у гарачыню, у хлеві у гусячым гнаю развіваюцца жывучкі (мікробы) і заражаюць увесь хлеў.

Каб уберагчы гусей ад хваробы, канечне трэба кожны дзень гусячы гной пасыпаць негашэнай ваннай, або сухім торфам, паверх гэтаго насланць саломы, каторую прысыпаць зямлёй; сьцены у хлеві трэба тры разы у тыдзень бяліць вапнай, або змываць карболавым квасам, а лепш за усё гусей на нач пакідаць на дварэ і кожны дзень, выгнаўшы на пашу, гной зграбсці у хлеў і засыпаць яго там зямлёй, а раз у тыдзень падворак дзе начуюць гусі пасыпаць вапнай, або торфам. Каліж пры гэтым каторы гусёнак захварэе, то яго канешне трэба адлучыць ад здаровых. Калі рабіць гэтак, як тут сказана, то гусеняты напэўна падыхаць ня будуць і набярэцца колькі вазоў надта добраго гною.

**Практычны гаспадар.**

*Здзітово, Гродз. губ.*

# Авадні.

Авадні, што лётаюць летам, прычэпляюць коням на грыву, пярэдные ногі і грудзі свае дробные, жоўтаваценькіе яечкі, як у нас завуць, конскіе гніды. Праз 2 тыдні з гэтых яечак вылупліваюцца маленькіе чэрвячкі і, распаўзаючыся па целу, непакояць каня, каторы аблізывае сябе, дзе толькі можэ дастаць языком. Гэткім парадкам, чэрвячкі трапляюць з языка у жывот, там прыпіваюцца да кішок і высысаюць сокі з жывата; апрача гэтаго чэрвячкі упіваючыся глыбока у кішкі робяць ранкі. Гэтак жывуць яны кормячыся лепшымі сокамі жывёлы да другой вясны і толькі тады адрываюцца ад кішок і вываліваюцца разам з гноем на зямлю.

Трапіўшы на зямлю яны закапываюцца неглубочка у зямлю, перэменяюцца у лярвы, а ў пачатку лета з лярвоў выклю-

ваецца новае пакаленьне аваднёў, каторые ізноў у свой чарод кладуць яечкі на грыву, грудзі і пярэдніе ногі коням.

Калі вясной чэр, што зімаваў у жываце, выходзіць з гноем, то конь хварэе на жывот, а часам, трапляецца, і на запаленьне кішок, калі іх многа, а число іх даходзіць да 500 і нават да 1000 штук.

Вельмі рэдка памагаюць якіе колечы лекарствы даваные ў нутр, дзеля таго, што чэр гэты сядзіць глыбока упіўшыся у кішкі і што ён вельмі жывучы.

Найлепшы спосаб—гэта агледаць летам што дзень у каня грыву, грудзі і пярэдніе ногі і чысьціць скуру на гэтых местах жалезным скраблом, каб паадрываць наклееные яечкі-гніды. Грыву лепей за ўсё астрыгаць на лета, каб лягчэй яе было чысьціць і саскрэбываць яечкі з валасоў. Апрача гэтаго авадні вельмі ня любяць крэпка пахнючых рэчэй, дзеля гэтаго каб іх адагнаць мажуць каней шпікунарам, нафталінай і другімі сьмярдзючымі мешанінамі.

З вышэй сказанаго відаць, што мы павінны бараніць коней ад аваднёў, бо яны мала таго, што дакучаюць коням, кусаючы іх, але ешчэ робяць не малую шкоду у здароўі коням калі пападзе іх чэр у кішкі і там гадуецца сокамі жывёлы.

**Лемеш.**

---

# Як падбіраць мёд.

Нельга сказаць, калі пачаць падбіраць мёд. Я-бы раіў часьцей заглядаць у вульлі і заўсёды, калі убачым, што пчолы залілі вашчыну мёдам, выліваць яго на цэнтрабезе, а вашчыну ізноў ўстаўляць. Твой інтэрэс выцягнуць найбольшую карысць с пчол, вось і не давай ім гультаваць.

Пчэльніку трэба ведаць, што найлепшы мёд, гэта заскаруплены, такі і выбірай; не заскаруплены мёд вельмі рэдкі, мае у сабе шмат лішняй вады, а дзеля таго можэ хутка скіснуць, — вось лепей крыху пачэкаць пакуль пчолы заскарупляць яго.

Гнездавых рамак лепей не чэпаць, хай пчолы заліваюць іх мёдам і добра заскарупліваюць, — гэто будзе мёд для пчол на зіму. Добра было-б выняць іх саўсім з вульля і пераховываць недзе у гэткім мейсцы, дзе мёд не цукравее, а пчолы у гэты час у пустым магазыне ахватней працуюць. Толькі калі саўсім мала вашчыны, можна асьцярожна браць іх на цэнтрабегу і то толькі ў пачатках мёдабраньня, не раней як 10 дзён пасьля таго, як адгароджэна матка, іначэй чэрва будзе не заскаруплена, а дзеля таго наглуміш чэрвы і напаганіш сабе мёд.

Выбіраць мёд можна рознымі спосабамі. Даўней, а ешчэ і сягоньня па вёсках, вырэзаюць ўпрост вашчыну з мёдам

і, пакрышыўшы ў якім небудзь начыньні, стаўляюць у цёплую печ. Там гэта каламесіцца, топіцца, мёд аседае на дно, а воск успливае на верх і застыгае у грубую скарупіну. Але гэткі спосаб выбіраньня і спушчаньня мёду, саўсім благі, бо і мёд не надта чысты і пчолам папсуеш усю іх работу. Каб пабудаваць новую вашчыну пчэлам трэба вельмі многа палажыць працы, як вылічылі вучоные пчэляры, на кожны фунт вашчыны, трэба 8 ф. чысьцюсенькаго мёду, а тым часам няўмелы пчэляр жыгане колькі разоў нажом і па іх працы.

Вось каб паменшыць пчолам работы, выдумалі вучоные людзі такіе машынкі, на каторых можна выліць мёд не папсаваўшы вашчыны. Завецца яна цэнтрабегай. Вялікая гэта падмога пчэльнікам. Пустую вашчыну можна падаць пчолам ізноў, а яны ў кароткі час заліюць яе ізноў мёдам.

Само сабой разумеецца, што з машынкі можэ карыстаць толькі той, хто завёў рамовые вульлі, бо вырэзаных с калоды каваткоў туды не ўставіш. Вось, выняўшы з вульля рамку, абмяці з яе усіх пчол, знімі асьцярожна пасечным нажом заскарупліну і, уставіўшы да цэнтрабегі, круці спачатку асьцярожна, пасьля хутчэй, але роўна і ня турзаючы, то ў адну, то ў другую старану. Па 3—4 мінутах, калі ужо мёду трохі надцячэ, трэба рамку выняць і, перэвярнуўшы на другі бок круціць ізноў, аж пакуль ня выцячэ увесь да апошняй каплі. Бяз гэтай перамены маглі-б палопацца васковые чарачкі. Часамі можэ быць мёд надта густы і не захочэ выцекаць, тагды патрымай яго на сонцы, або у цёплай хаці. Да самаго выбіраньня найлепш узяцца паміж 10—3 гадзінамі; выліваць мёд на цэнтрабезе, трэба недзе падальш ад вульлёў, найлепш у якім будынку, а то пчолы пачнуць красьць чужы мёд. Вось каб гэтаго ліха не было, вылёты у вульлях у гэты час паменш, а рамкі з мёдам пераносьць у райніцы.

Выліты на цэнтрабезе мёд трэба перэцадзіць праз густое сітка, бо не без таго, каб не наляцело туды разнаго сьмецьця, ці абломкоў вашчыны.

**Г. Бярозка.**

---

# Школка і прышчэпкі.

Калі мы хочэм садзіць свой сад, то вельмі важна мець сваю школку, бо купляць дрэўцы і дарага каштуе і могуць даць ня тые гатункі, што мы прасілі. Каб завясьці школку перш трэба выгадаваць дзічкі, значэ дзікіе яблыні, грушы, ці сьлівы на каторых будзем прышчэпляць. Дзеля гэтаго збіраем у восень зерняты дзічэк і або адразу сеем, пакрываючы на зіму гальём ялаўцовым, або лепей „стратыфікуем“ іх перш. А робіцца гэта так: бярэцца дрэўляную скрынку з дзіркамі

у дне, кладзецца на дно чэрапкоў, вугалёў і сыплецца жоўтаго пяску. На пясок рад зернят, пасьля ізноў пясок, рад зернят і гэтак радамі да верху. Скрынку ставіцца ці у склепе, ці закапываецца у зямлю дзе небудзь у цяньку, на аршын глыбінёй, каб не дайшоў мароз.

Вясной, як адтаець земля выймаецца скрынка і зерняты сеюцца на загон у радкі і паліваюць, калі весна сухая. Як вырастуць дзічкі так, што маюць усе па 4 лісткі, трэба іх пікаваць — значыць даставаць з зямлі, палову карэнчыка адрэзаць і перэсадзіць на другі загон, але ужо радзей.

Летам трэба палоць іх паліваць калі суха. Праз лета часць іх павінна вырасьці так, што у восень можна перэсаджываць. Садзім ужо у школку, бо іншые дрэўкі сталі ужо таўшчы нёй, як малы палец, або як гусінае пяро.

Мейсцо пад школку трэба выбіраць адкрытае, каб дрэўцы прывыклі да халадоў, а зямлю трэба перэкапаць на аршын, падісподню зямлю выкідаць на верх, а верхню пад ніз. Гэткае капаньне называецца „рэгулёўка“. Калі земля дрэнная, то можна прыбавіць пад іспод старога гною. Як земля гатова садзім дзічкі на поўаршына адно ад другога.




На першым рысунку з лева паказана як трэба вырэзаць ушчэпку; на другім — як трэба надрэзаць кару на дзічцы; на трэцьцім — як укладаць ушчэпку пад кару дзічкі і на апошнім паказана як трэба абвязываць прышчэп.

Пасаджэные у восень можэм ужо на другі год у палове ліпня „акуліраваць“. Для гэтаго бярэм зраз з дрэва добраго гатунку, значыць маладую, гэтарочную галінку і вострым ножыкам зрэзаем вочка с кавалачкам дрэва. На дзічку невысока над зямлёй надрэзываем кару у знак літэры **Т**, адхіляем кару, садзім туды вочка і завязываем рагожкаю, ці суконнай ніткаю. Праз два тыдні калі лісток адваліцца значэ дрэўко прінялося.

Вясной, калі вочка зялёнае і расьцець, то можна ужо лічыць, што яно саўсім прынялося. Тады зрэзываем дзічку пакідаючы над вочкам сучок, да каторага прывязываем вырасшый з вочка расток. Гэта першы год шчэпкі.

На другі год вясной гладка зрэзываем сучок, замазываем яго мазьзю, а саму ўшчэпку укарачываем на адну трэцьцю

часьць, пакідаючы над апошнім вочкам ізноў сучок. Летам пазваляем, каб дрэўко расло тыкеля найвышэйшаю галінкаю, а усе бочные да паловы зрэзаем, каб пень хутчэй грубеў, на трэцьці год тое самае, а на чацьвёрты можна ужо рабіць карону — значэ пазваляем, каб на дрэўку расьлі галінкі с пяці пучкоў на яблыні, а на грушы с шасьці. Лішніе расткі, гэта рочные, да паловы зрэзаем, а старые і дзікіе, каля пня адрэзаем гладка вострым ножыкам і замазываем мазьзю. Земля у школцы павінна быць чыстая, дзеля гэтаго разы 2 — 3 праз лета трэба палоць, а вясной і перэкапаць. Калі шчэпы у школцы добра растуць, то тые дрэўцы, каторым мы зрабілі карону вясной, у восень можэм ужо садзіць у сад



На гэтым рысунку паказана як трэба абрэзаць дзічок: у самым версе першы абрэз, у нізе, над прышчэпкай, зазначэна дзе і як трэба рэзаць другі раз.

**Алёна.**

*м. Хільчыцы, Лідз. п.*

---

# Сэрадэля.

Як лубін, так і сэрадэля можэ расьці і на дрэннай зямлі, на ялавінах.

Расьце сэрадэля найлепш на лёгкай зямлі, дзе мала вапны, на макраватых песках, але ня любіць калі падысподам блізка вада ёсць.

І сэрадэлю, гэтак сама як і лубін, добра заорываць на зялёны гной, яна папраўляе зямлю. Аднак лепей яе скарміць перш скацінай, а посьле вывезьці гэты гной, бо корм с сэраҭэлі надта добры, скаціна будзе клуста і гною шмат. Каровы вельмі ласа ядуць сэрадэлю на зялёны корм. Ад яе каровы ҭаюць шмат малака, і сэрадэля не раздувае кароў, як канюшына, а дзеля гэтаго можна яе даваць у волю есці каровам.

Сеяць трэба сэрадэлю, як і кожну ярыну — вясной. Высеваць на дзесяціну каля 2 пудоў ($1^1/_2$—$2^1/_2$ пуд.). А дзеля таго, што зерняткі сэрадэлі маленькіе, то забарановываць яе трэба вельмі лёгка, на якіе чэцьверць, або поў цаля.

Поле пад сэрадэлю трэба вырабляць добра і ачышчаць ад зеліва, дзеля таго, што яна спачатку расьце вельмі марудна. Сьвірэпіцу, асот трэба канешне скасіць паверх сэрадэлі, каб не глумілі яе. Найлепш разрастаецца сэрадэля, як ужо пачынаецца жніво. Калі на пачатку сэрадэля падымаецца марудна ня трэба думаць, што яна прапала. Трэба тыкеля пілнаваць, каб зельле яе не глушыло. Дзеля гэтаго найлепш сэрадэлю сеяць па жыці, ад раннай вясны, аж да часу калі яно пачынае красаваць, бо жыта яе ня зглуміць, а у жыці німа зельля. Як пажнецца жыта, сэрадэля пачынае разрастацца, а у восень яе яе можна скасіць на сухі корм, або спасьвіць на полі скацінаю.

На сухі корм найлепей сэрадэлю касіць тагды, як яна красуе, але ня трэба чэкаць пакуль яна саўсім перэкрасуе, бо гэто можэ цягнуцца аж да прымаразкоў. Калі будзем касіць сэрадэлю, як яна ужо зо два тыдні красавала, то мецьімем добры корм і насеньне.

Скасіўшы сэрадэлю, сушыць яе трэба у копках, як і канюшыну, але дзеля таго, што яна вельмі дэлікатна, ня трэба часта варочаць, каб не абтрусіць лісточкоў і струкоў.

Калі малоцяць сэрадэлю, то асыпаецца шмат лісткоў, гэтымі лісткамі добра карміць сьвіньней, а сьціблы можна даваць каровам і коням.

Насеньня сэрадэлі зьбіраецца з дзесяціны ад 10 да 50 пудоў. Сена з сэрадэлі зьбіраецца каля 100 — 200 пудоў з дзесяціны, а зялёнаго корму, ня сушэнаго — 600—1000 пудоў з дзесяціны.

Л. Р—м.

*Уснаж - Макароуцы.*

---

# Чаму попелам можна унаважываць зямлю і як гэта рабіць.

Чым унаважываць зямлю і што патрэба зямлі, каб на ей добра расьлі пасеяные расьліны і давалі добры ураджай?

На першае пытаньне земляробы-селяне скажуць нам: „Кладзіце на вашу зямлю многа гною, і тады узрост пасеяных расьлін і ураджаі будуць заўсёды добрые; хлебаробство будзе даваць добры днход.

З гэтым кожны згодзіцца. Але беда у тым: як класці многа гэтаго гною, калі яго ў гаспадарцы дужа мала, або і саўсім німа? Скуль узяць яго, калі у господарцы адна скацінка карова, ці конь? Мала скаціны у гаспадарцы, мала і гною. Якжэ даць раду з гэтым?

На гэта дае нам атказ навука, а дзеля гэтаго і трэба нам звярнуцца да яе.

Навука тое самае нам атказжэ, што і практычны гаспадар, але яна не затрымаецца на адным, а дабавіць, што калі не хапае гною на ўсё поле (1 пуд гною на квадратны сажэнь), то прыпомніце сабе с чаго складаецца расьліна і якіе мінералы ёсьць у попеле, калі мы спалім расьліну; прыпомніце гэта і падумайце, ці ня можна усе гэтые пажыўные часткі, патрэбные для расьлін, палажыць у зямлю неяк паміма гною.

А навука ведае, што попел кожнай расьліны складаецца с тых часьцін, якіе расьліна узяла з зямлі, а іменна: с калія (поташу), фосфорнай кіслаты і вапны. Значэ, калі мы не маючы сколькі трэба гною, вернем зямлі попел, то мы вернем тое, што расьліна выцягнула з зямлі ў часе свайго узросту. Мы вернем нашай зямлі, той калій (паташ), фосфарную кіслату і вапну. Унаважываючы зямлю попелам мы вернем ей тое самае, што вертаем ей і саломістым гноем, але толькі без азота (сялітры), каторы пры згараньні саломы, дроў і наагул усіх расьлін, уцёк разам з дымам у паветрэ.

З гэтаго відаць, што попел, каторы перэгарае ў печы з дроў, саломы і др.,—гэто адзін з найлепшых навозоў на нашы землі. У гэтым попеле, апрача азоту, ёсць усё, чым расьліны кормяцца у часе узросту, а асабліва важны для нас калій (паташ) і фосфорная кіслата.

Вось-жэ нам трэба звярнуць асабліваю увагу на попел, яго ня можна выкідаць вон на вуліцу, але зьбіраць і пераховываць у сухім мейсцы, а посьле вывазіць на поле і там раскідываць.

Як жэ ужываць попел, калі яго разсеваць і сколькі пад кожнае з нашых збажын?

Попел можна падсеваць пад усякае збожжэ і сельскагаспадарскіе расьліны: жыто, авёс, ячмень, пшаніцу, а асабліва пад бульбу, лён, грэчку і канюшыну і асабліва на гароды.

Пад жыта, авёс і пшаніцу попелу высеваюць зазвычай 20—30 пуд. на дзесяціну ($^1/_4$—$^3/_8$ ф. на 1 квадраты сажэнь).

Пад бульбу, лён, грэчку і канюшыну попелу можна высеваць у поўтара раза больш, пудоў 30—45 на дзесяціну.

Разсеваць па ральлі папел трэба як мага раней: пад азімае жыта перад першай оркай, калі поле ешчэ не зааранае (так перэд Пятром). Разсеваць попел па ральлі не варта. Калі пад жыта будзе падсевацца канюшына, то попелу трэба разсеваць столькі, сколькі трэба пад канюшыну г. зн. пудоў 30—45 на дзесяціну.

Пад ярыну: авёс, ячмень, пшаніцу, бульбу, лён і грэчку попел гэтак сама трэба раскідаць як можна раней: лепей з восені разсеяць і тады-ж заараць, а калі неўпраўка у восень, то можна і вясной, як сойдзе сьнег і па неаранаму полю. Заарываць попел пад ярыну трэба гэтак сама, як і пад азіміну, гэта зн., ня меньш як на 2 вяршкі. Разсеваць попел трэба у такую пагоду калі німа ветру, лепей за ўсё раніцай, або позна вечэрам.

Асабліва карысны попел на розных лёгкіх землях: пешчаных, супесках і лёгкіх падглінках.

Ужываючы попел, як навоз трэба заўсёды помніць, што высеваць многа попелу на поле (да 70—100 пудоў на дзесяціну, як сказана у старых сельска-гаспадрскіх кніжках) не заўсёды бывае карысна, а часам нават і шкодна: калі пасыпаць гэтак многа попелу у зямлю, то посьле пасеву ад дожджу поле заскарупее, а гэта дрэнна адбіваецца на ураджаі

Апрача высеву попелу на поле, яго можна с карысьцю высеваць на сенажаці. С сенажацей мы кожны год звозім сена, а вертаць сенажацям тое, што ўзялі травы з зямлі, мы ніколі не вертаем і дзеля гэтаго ураджай сена з году на год паменьшаецца. Каб паправіць сенажаці, на іх трэба высеваць попел, г. зн., вярнуць сенажаці тое, што забралі мы сенам. Апрача таго калі сенажаці торфяністые, балотные, або як іх называюць, кіслые, то попел на гэтых землях вельмі карысьцен: попел робіць гэты землі не такімі кіслымі, а дзеля гэтаго ураджаі на іх павялічываюцца, ды і травы робяцца лепшымі.

З усяго вышэй сказанаго відаць, што попел гэто вельмі важны навоз на нашы землі, што гэто грошы, каторые гаспадар цавінен пусьціць у абарот на сваей зямлі, а не выкідаць вон, як гэта часта густа робіцца цяпер.

**Аграном А. Чорны.**

*Мінск.*

# Аб падсцілцы.

Кожны гаспадар добра ведае, што сіла гною не бывае роўная, Інакшы, напрыклад, гной с пад авечак, інакшы с пад скаціны, або с пад каней і т. д. Сіла гною ня столькі залежэ ад самай жывёлы, колькі ад сорту кармежкі, якую даецца жывёле і ад сорту падсьцілкі, якая ужываецца у хлеві. Каб спазнаць які гной найлепшы, людзі навукі рабілі з ім уселякіе пробы і паказалося вось што.

Калі даваць падсьцілку з аднэй толькі саломы, хоць класьці яе ў волю, то гэткі гной найкарысней вывозіць на поле сьвежым, не чэкаючы пакуль ён у хлеві зусім перэгніе. Вывозіць яго трэба на такое поле, дзе бы ён мог прыгараны лежаць што найдаўжэйшы час, і там--на мейсцы—ў зямлі ўжо перэгніваць. Значыцца, сьвежы гной найлепш вывозіць або на зіму і прыгараць яго, або з вясны на папар, каб ён меў час перагніць у зямлі.

Калі-ж саламяны гной мае лежаць праз даўжэйшы час у хлеві і там перагніваць, то каб ён не траціў сваей моцы, трэба *канешне* дадаваць інакшэй ешчэ падсьцілкі, або прасушэнаго торфу, або лясной падсьцілкі, калі разам з мохам і ліста-

мі дзярэцца земля; або купін з лугоў, ці хоць бы і так зямлі з равоў, каўдобін і т. п. Земля, як і торф уцягівае ў сабе гнойную жыжку і гэтым самым робіць крайчэйшым, карысьнейшым гной.

У адным саламяным гнаі загадовываюцца так званые *бактэрыі*, каторые зьніштожываюць, з'едаюць у ім тое, што найпатрабнейшае для прыбытку зерняці (салетру).

У конскім гнаі большая сіла яго ў мочы, чым у самым кале; але гэта сіла мочы прападае дарма, калі слаць у стайні аднэй толькі саломай; як-жэ хоць па крысе што дня пацярушыш зямлёй, ці торфам, — усё багацьце гною астаецца ў ім і тады толькі давязеш яго ў цэласьці на поле.

Пераканацца ў гэтым лёгка можэ кожны гаспадар. Ведаеце, як пасьля начы адчыніш стайню, які адтуль б'е дух; гэты дух, што так дае ў нос і ёсць самая сіла конскаго гною — яго мачы (аманьяк), каторая паруе і значыцца дарма гіне. Падсыпжэ толькі з вечэра зямлі у стайню, а на заўтра гэтаго духу аві званьня, бо земля ўсю мачу уцягівае у сябе і толькі ўжо на полі пасеянае зярно выкарыстае з гэтай сілы. Якая-ж сіла, якая карысьць с конскай мачы, можна ўжо спазнаць с тых густых, цёмных, вялікіх кустоў збажыны, якіе узрастаюць на полі на тым мейсцы, дзе, гаручы, вымачыўся конь.

Цяпер, ешчэ, адна важная справа.

Зімой, калі і час вальгатнейшы, ды і ў будыніне цеснавата бывае з гноем, прыходзіцца яго вывозіць на поле. Як-жэ яго там складаць так, каб найменш было глуму. Мне не раз здаралося бачыць, як раскідаюць гной зімой у маленькіе кучачкі. Гэта-ж глум — страшэнны глум! Вывозячы гной зімой, трэба яго, калі ёсць змога (невялікі сьнег) ўсьлед раскінуць яго роўненька жалезнымі вілкамі па полю, або складаць у вялізарные кучы, перэкладаючы яго зямлёй, торфам, сьнегам у сярэдзіне і так сама прыкрываючы зьверху.

Калі-б наш брат—гаспадар добра завіхаўся і разумна карыстаў з усяго багацьця, нечэпанаго, непачынанаго ешчэ на нашэй зямліцы: торфу, купін, равоў і т. п., то ешчэ ня скора прыйшлося-б куплаць нам, аптэчные па цане, фабрычные парашкі!

**Гаспадар.**

---

# Курынные гаспадаркі.

У нас глядзяць гаспадары на курэй, як на шкоднікоў, каторых дзеля таго толькі гадуюць, што ад малацьбы астаецца азадзьзе с якім німа што больш рабіць, як толькі скарміць курамі, ну і ешчэ каб дагадзіць бабам. А тым часам вывоз яец і курэй заграніцу з году на год павялічываецца. Напрыклад

у 1905 гаду з Расеі, праз Лібаву і Рыгу вывезена заграніцу адных яец на 70 мільёноў рублёў, а жывой і бітай птушачай драбязы: курэй, гусей. качак—на 15 мільёноў рублёў.

Цікава, што коней, кароў, авец, свіньнеў і малочных прадуктоў агулам на менш грошы вывозіцца за граніцу, як адных яец. І ўсёж такі ні самі гаспадары, ні нават гасударство не парупіліся звярнуць большую увагу, на гэту частку сельска-гаспадарскаго промыслу. А ў той-жэ час пасылаюцца і самі езьдзяць розные людзі заграніцу, каб даведацца, як вядзецца гандэль малочнымі прадуктамі, ды каб купіць на племя заводные штукі жывёлы.

Птушыная гаспадарка у нас страшэнна запушчэна, з гэтай прычыны і прадукты нашай птушынай гаспадаркі займаюць самае апошнее мейсцо.

Яйкі нашых курэй дробные, брудные і благой, калекай формы. Дзеля гэтаго яны цэняцца заграніцай на 40 — 50% дзешавей ад другіх: гэтак за сотню францускіх яец плацяць 3 р. 63 к., італьянскіх 3 р. 53 к., нямецкіх 2 р. 40 к, за яйкі-ж прывожэные у Англію з Расеі плацяць усяго толькі 1 р. 65 к. (цэны 1905 г.). Гэткіе малые цэны на яйкі вывожэные з Расеі, аб'ясьняюцца тым, што тут гадуюць дрэннаго заводу курэй не падбіраюць на племя добрые штукі і ў большай часьці гаспадарак куры гадуюцца блізка, што саўсім дзіка—німа дагляду.

Тым часам птушыная гаспадарка, а асабліва гадоўля курэй, можэ даваць ня зборшы даход, асабліва у дробных гаспадарках, бо гэты промысел не вымагае вялікіх грошы. А пры гарадох і жалезна-дарожных станціях гадоўля курэй можэ нават даваць і вялікіе даходы. Напрыклад заграніцай: у Францыі, каля Парыжа, у Англіі, каля Лондона і каля многа якіх гарадоў Амэрыкі з гадоўлі курэй жывуць, ды ешчэ як жывуць, цэлые сотні хвальваркоў (фэрм).

Куры заводные, бываюць дваякаго назначэньня: гадуюць іх на яйкі і на мяса. Вось, разводзячы курэй (ня рэдка тысячамі) загранічные гаспадары і мяркуюць найперш з якога заводу яны будуць мець найболей даход, ці прадаючы курчат на мяса у блізкі горад, ці гадуючы курэй на яйкі, гэто другое выгадней гаспадару, калі далёка ад гораду. У нас на Беларусі найбольш карыснай можэ быць курынная гаспадарка на яйкі, бо у краю вялікіх лішне гарадоў не маем. Дзеля гэтаго найвыгадней развадзіць у нас курэй носнаго заводу. Нашы куры, часта бывае, што зносяць усяго толькі 50 — 70 яец у год. а з гэткай курыцы ня толькі даходу німа, але чыстая страта гаспадару. Ёсць заводы курэй як: *вяндот* і *італьянскіе*, каторые зносяць у год 200 — 240 яек, з гэткай курыцы гаспадар будзе мець у год чыстаго даходу 1 — 1.50 к. Трэба каб у помач развіцьцю гэтаго промыслу паміж дробных гаспадароў, прышлі у памач сельска-гаспадарскіе таварыствы і земствы у тых губэрнях Беларусі, дзе яны заведзены.

Каб-жэ прыйсьці с памачу, трэба найперш сабе уявіць тые недастаткі з якімі трэба змагацца. Недастаткі гэты, меней

болей будуць гэткіе: яйцо нашых курэй малое лёгкае (9 — 10 залатнікоў, а ёсць заводы курэй яйцо каторых даходзіць 15—17 залатнікоў); куры нашы, як вышэй было сказана зносяць мала яец (60—70, а ёсць заводы курэй, каторые зносяць 200 — 240 і больш); куры у нас дробные (3 — 4 ф., а ёсць заводы курэй, каторых вага даходзіць да 10 — 12 ф.). Значэ, трэба, павялічыць вагу яец, носкасць курэй і вагу курэй. Гэто можна зрабіць толькі закладаючы паказные курынные гаспадаркі з заводнымі курамі і прадаючы танна на племя яйкі заводных курэй селянам.

**А.**

---

# Проба палепшэньня торфаваго балота.

I.

На выстаўцы у Мінску 3—5 юня былі выстаўлены кавалкі зялёнаго дзервана з сенажаці у м. Лахва Мінск. губ., належачаго да селянскаго банку.

Узялі 1 дзесяціну торфу, трохі асушэнаго канавамі (верста адна ад другой), выбаранавалі талерачнай бараной Рэндаля. (Торф залегаець на $2^1/_2$ арш. глубіні).

У аўгусце 1911 г. засеялі мешанку траў па рэцэпту Брэменскай балотнай станціі у Немеччыне. Разбілі дзесяціну на 17 дзелянак.

1) Першую дзелянку пасыпалі (будзем падаваць пуды, мяркуючы, сколькі выходзіць на 1 дзесяціну): тамасоўкі — 34 пуды, калійнай солі (30%) — 17 пуд.

2) На 2-ую дзелянку: тамасоўкі—34 пуды, каініту—30 пуд. калійнай солі (30%)—17 пуд. і 80 пуд. вапны.

Гэта дзелянка дала травы найлепш.

Першая дзелянка—нішто сабе.

4) 4-ая дзелянка—кантрольная: нічаго ня сыпалі.

5) 5-ая дзелянка: фосфорыту—34 п., калійнай солі (30%)—17 п. Трава нішто сабе.

6) 6-ая дзел. тамасоўкі — 17 пуд., калійнай солі (30%) — 17 пуд. Трава нішто сабе.

7) 7-ая толькі калійнай солі (30%)—17 пуд.

6-ая і 7-ая дзел. выйшлі травой як і першая.

II.

Другая проба выстаўлена была з м. Веркалы Шустоўскаго Ігумен. пав. Мінск. г.

Узаралі, потым рэндаліравалі (значыць бараной Рэндаля парэзалі).

У 1909 гаду авёс бяз гная; 1910 году: тамасоўкі — 24 п., калійнай солі (30%)—24 пуды і пасеялі бульбу.

У 1911 г. — тамасоўкі — 24 пуд., калійнай солі — 24 пуды, засеялі мешанку траў з 5 пуд. аўса. Накасілі з 1 дзесяціны 400 пуд. сена.

У 1912 г. пасыпалі 200 пуд. попелу на 1 дзезяціну.

**А. У.**

---

# ВЫСТАЎКА — КІРМАШ у МІНСКУ

## 3—5 юня.

Насколкі выстаўка у Вільні, арганізаванння Віленскім сельска-гаспадарскім таварыствам не удалася, настолькі Мінская выстаўка жывёлы удалася. Прычына гэтай удачы, гэто тое, што у Міншчыне вышэй стаіць сельска-гаспадарская культура і ёсць земствы, каторые ажывілі жыцьцё сельскіх гаспадароў, ёсць шмат земскіх, правіцельственных і другіх аграномоў, каторые шчыра узяліся за працу маладымі сіламі. На выстаўку далі грошы казна, сельск.-гасп. таварыствы і земство да 1800 руб.

На выстаўцы было 132 шт. рагатай скаціны, 68 каней, 53 свіньні, 10 гусей, 9 авечак. Выстаўленные штукі разам і прадаваліся.

Дасталі награды:

### За каровы заводу Швіц.

1) За 26 шт. кароў графа Чапскаго з м. Смолева і Кролева далі залатую медаль за завод (тып) і малочнасць.

2) В. Лэнскаго, м. Антонополь, бронзовую медаль за завод „экстэр'ер“ (зверхні выгляд), за чыстасьць заводу і добрае харчэваньне.

Было ешчэ 8 швіцоў Л. Трускаляскай, м. Бобовня і 10 шт. С. Валодковіча, м. Новый двор (бранзовы медаль).

Усяго швіцоў 51 шт.

### Галяндэрская скаціна.

1) 6 кароў, 2 быкі Тарчынскаго, м. Сеніца, залаты медаль за экстэр'ер, за вялікую млечнасьць, за добрае харчэваньне.

2) 16 шт. П. Ваньковіча, м. Заазёрье, вялікі сребны медаль за сярэдні экстэр'ер, за млечнасць.

3) 12 шт. О. Свіды, м. Ружанполь, мал. сярэбны медаль.

4) К. Санкевіча з м. Бакітова, скаціна добра збудаваная, чыстаго заводу, але слаба харчэваная.

5) Я. Набороўскаго, м. Лебедзінец, 2 бычкі малодые, меньш 1 года.

Усяго голендроў 46 шт.

### Чырвоная „Сліонзк“.

1) 7 шт. мешанцоў чырвонай с тырольской, м. Стоньково гр. Чапскаго, вялікі сярэбрэны медаль за экстэр'ер, вышэй сярэдняго млечнасць, вялікую і жывую вагу.

2) м. Новосады Шалевіча, 3 каровы тутэйшаго заводу, палепшэвные добрым кормам.

3) Марьіна-Горская школа сельскай гаспадаркі, з Ярослаўкі, слабы экстэр'ер, слабое харчэваньне.

### Беларуска - літоуская скаціна.

М. Ігнатычы В. Ельскаго 10 кароў, 7 цяліц, 2 быкі, вялікі срэбны медаль за добры экстэр'ер, добрую млечнасць пры 5% тлустасці, добры узрост і жывую вагу (сярэдне 28 пуд.). Гэта проба палепшэньня тутэйшаго заводу кормам і падборам.

Правіцельствены аграном Вельямінов-Зернов стаіць так сама за тое, што гэты завод можэ быць самы лепшы для нашых варункоў і клімату; цяпер аграномы Бокун, Занеўскі, Выслоух ездзяць па Міншчыне абмераюць і абглядаюць тутэйшую скаціну, каб выясніць гэту справу.

### Коні.

1) Вэндорфа м. Савічы малы срэбны медаль за усё стада 9 коней: 1 брабансон (з ардэноў)—жэрабец з заграніцы (2400 руб.) вялік. сярэбн. медаль, 1 ангельск. чыстакр., 2 кабылы тутэйшые, 2 жарэбчыкі ад брабансона і тутэйшых кабыл.

2) З м. Навагода: 1 ангельск. чыстакройны, 1 араб (пахвальны ліст).

3) М. Выгонічы Грушвіцкаго. 1 жэрабец—Ольдэнбург.

4) М. Станьково Чапскаго англо-араб (пахвальны ліст).

5) М. Соломерычы Юрэвіча 3 жэрабцы рысакі — бронзовы медаль, пахвальны ліст, мал. срэбн. медаль.

6) М. Ігнатово Ц. Енішэўскаго 3 жэрабцы полукроўные рысакі.

7) Лэнтоўскаго — рысакі.

8) Гендрыксона 2 шэрые рыс. кабылы — пахвальны ліст, бронзовы медаль.

9) Рэгульскаго 2 полукроўных—2 пахвальных лісты.

10) Енішэўскаго—руды жэрабец—ардэн, шэрая кабыла для коннай язды — вялікі сярэбрэны медаль.

11) Грыгоровіча—жэрабец—араб.

12) Іодкі — вараны жэрабец.

13) Яноўская стайня — араб м. срэбны медаль.

14) З Белай Цэркві, Кіеўск. г. гр. Браніцкай: арабы і англо-арабы — мал. срэб. медаль.

15) Маліноўскаго, Навіцкаго — рысакі.

Былі выстаўлены і мужыцкіе коні ладные.

1) Станішэўскаго: жэрабец — бітюг, для цiжароў, нагрдды 25 рублёў.

2) Сенкевіч: бітюг — 20 руб.

3) Крыловіч: полукроўны клайдэсдаль — 40 руб.

4) А. Сергеевіч: жэрабец — 25 руб.

5) Т. Полещук: жэрабец — 15 руб.

6) Сапун: конь — 25 руб.

7) Марьіно-Горскай школы проба выгадаваць коней для дробнай гаспадаркі; 3 кабылы мешанцы: ольденбург з полукроўным ардэнам.

**Свіньні.**

Найбольш цікавые:

1) Аліны Рэйтан: 18 вялікіх ангельскіх — залаты медаль.

2) Гувальда: іоркшыры — мал. срэбн. медаль.

3) Рытвінскаго: кабан буры „Тамбор“, падобны на дзіка.

**Гусі.**

Тарчынскаго і Набороўскаго лебядзіннай пароды.

**Авечкі.**

9 шт. „негрэтті-электораль“, тонкай воўны—залаты медаль.

На выстаўцы было многа народу з вёсак, бо у Мінску быў кірмаш — Дзесятуха, апрыч таго шмат выстаўленнаго прадалі, значыць ад выстаўкі ёсць і карысць.

У восені будзе выстаўка — фруктоў.

**А. У.**

**г. Дісна,** Вілен. губ.

Сельска-гаспадарская суполка „Работнік“ працуець ужо пяты год. Дасталі ад Дэпартамэнта Земледзелія сэпаратар і усе млечарскіе начыньня, 30 бэтоноў. Хаўрусная млечарня знаходзіцца у в. Фядосаве, Мікалаеўскай вол. мужыкі звозілі млека і скуплямі кругом, рабілі масла і высылалі у Англію. Завялі новые кросны самалёт, на каторых вучацца ткаць хто хочэ.

На сходах суполкі разбіраюцца справы хутароў, новые спосабы гаспадаркі; прэдседацель п. Мед—кі раздаў парасят бэркшыроў і курэй ортпінгтон-буф; бэркшыры пры звычайных харчох даюць шмат сала; а куры надта нясуцца да 200 яец у год, у Бэрліне на выстаўцы гэты завод курэй дастаў залаты медаль. Суполка выпісала насеньня лубіна і сэрадэлі для хаўрусьнікоў. Гэта тут ешчэ навіна.

**Н. Р.**

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоў.** Друкарня „Зніч“ Вільня.